Vol. I of X SEP 88 $2.00 US/$2.95 CAN




# V FOR VENDETTA™

by Alan Moore and David Lloyd

Suggested For Mature Readers

BY COMICS

V - ЗНАЧЫЦЬ ВЕНДТА #1 (1988)
ПЕРАКЛАД АЛЕНЫ ВАСІЛЬКОВАЙ
АФАРМЛЕННЕ COMICSBY

Я пачаў “В значыць Вендэта” летам 1981, каб чымсьці заняцца ў час адпачынку на востраве Уайт. Маёй малодшай дачцэ, Эмбэр, было толькі сем месяцаў. А скончыў я працу зімою 1988-га, з перапынкам пяць гадоў, які ўзнік з-за спынення выпуску часопіса “Warrior”, дзе раман пачынаў публікавацца. Эмбэр было ўжо сем. Не ведаю, навошта я пра гэта пішу. Гэта проста адна з абставін, якія раптам знянацку могуць збіць з панталыку так, што ты вымушаны сесці там, дзе стаяў.

Разам з «Marvelman» (зараз пераіменаваныя ў “Miracleman”), ”В значыць Вендэта” адносіцца да маіх першых спроб стварэння графічнага рамана і адзначае пачатак маёй кар’еры. Таму (у прыватнасці) у першых эпізодах ёсць прыёмы, якія з цягам часу глядзяцца зараз, пасля ўсіх змен, якія перанес жанр, даволі дзіўна. Спадзяюся, што вы з разуменнем аднясецеся да пэўнай дылетанцкай нязграбнасці і падтрымаеце нас у сцвярджэнні, што лепей пакінуць гэтыя эпізоды без змен, з усімі недахопамі і стратамі, чым цынічна выдаляць сляды юнацкай нявопытнасці.

З тых ранніх эпізодаў бачна, што ў палітыцы я не быў вельмі дасведчаны. У восемдзесят першым тэрмін “ядзерная вайна” яшчэ не стаў агульнаужываным, і хоць мае здагадкі аб кліматычных зменах апынуліся блізкімі да праўды, нікуды не адыйсці ад дапушчэння, на якім будуецца ўвесь сюжэт: ядзерную вайну, нават і несусветную, магчыма перажыць. Наколькі я зараз разумею, гэта невыбачальная памылка.

Акрамя таго, я бясхітрасна думаў, што патрабуецца нешта не меней меладраматычнае, чым ядзерная вайна, каб падхіснуць Англію да фашызму. Трэба, канешне, аддаць справядлівасць мне і Дэвіду – болей дакладных прагнозаў у нашай палітычнай будучыні ў выглядзе коміксу не было. Дастаткова казаць, што адной з сюжэтных прадпасылак было паражэньне кансерватараў на выбарах 1982 году, і стане зразумела, наколькі мы паспяховы ў ролі супольнай Касандры.

Зараз 1988 год. Маргарэт Тэтчэр ужо ў трэці раз займае пасаду прэм’ер-міністра і ўпэўнена кажа аб тым, што эпоха праўлення кансерватараў працягнецца і ў наступным стагоддзі. Маёй малодшай дачцы сем, а ў жоўтай прэсе абмяркоўваецца ідэя стварэння канцэнтрацыйных лагераў для хворых на СНІД. Паліцейскія з новых падраздзяленняў носяць чорныя маскі, як і іх коні, а на дахах іх машын пастаўлены камеры, якія кружацца на навокал сябе. Улада выражае жаданне скончыць з гомасэксуалізмам, нават як з абстрактным паняццем, і можна рабіць стаўкі на тое, якая з меншасцей будзе пераследвацца наступнай. Я думаю аб тым, каб забраць сваю сям’ю і паехаць з гэтай краіны і, мажліва, праз пару гадоў, так і зраблю. Тут холадна, безабаронна, і мне тут болей не падабаецца. Дабранач, Англія. Дабранач, Міністэрства Унутраных Спраў і V у значэнні Вікторыя – Перамога.
Прывітанне, “Веснік Лёсу” і “В значыць Вендэта”.

**Алан Мур**
**Нортгэмптан,**
**сакавік, 1998 год.**

**Гэта пасляслоўе напісана Аланам Мурам для першага выпуску амерыканскага часопіснага перавыдання рамана ў выдавецтве “DCComics” і аднаўлена ў гэтым выданні без зменаў.**




By **Alan Moore** and **David Lloyd**
Color artists: **David Lloyd**
**Siobhan Dodd**
Lettering: **Jenny O'Connor**
**Steve Craddock**
JORDAN TOWER

# V ЗНАЧЫЦЬ ВЕНДЭТА



ПЕРАКЛАД АЛЕНЫ ВАСІЛЬКОВАЙ, АФАРМЛЕННЕ COMICSBY

ComicsBY.by





















КАРАЛЕВА ЗАРА СЁННЯ ПРЫЙМАЛА ЎДЗЕЛ У ЦЫРЫМОНІІ АДКРЫЦЦЯ НОВАГА ЗАВОДА ПА ПЕРААПРАЦОЎЦЫ ВЫКІДАЎ У ПЛАЙСТОЎ. ГЭТА ПЕРШАЕ ПУБЛІЧНАЕ З'ЯЎЛЕННЕ КАРАЛЕВЫ ПАСЛЯ ЯЕ ШАСНАЦАЦІГОДДЗЯ.

КАРАЛЕВА БЫЛА АПРАНУТА Ў ШОЎКАВЫ ГАРНІТУР ПЕРСІКАВАГА КОЛЕРУ, ЯКІ БЫЎ ПАШЫТЫ ВЫКЛЮЧНА ДЛЯ ГЭТАГА ВЫХАДА ПРЫДВОРНЫМ КУЦЮР'Е.

АДРЫЯН КАРЭЛ, ПАРЦІЙНЫ МІНІСТР ВЫТВОРЧАСЦІ Ў СЁННЯШНЯЙ ПРАМОВЕ ПАДКРЭСЛІЎ, ШТО ПЕРСПЕКТЫВЫ БРЫТАНСКАЙ ВЫТВОРЧАСЦІ ЗАРАЗ ЛЕПЕЙ, ЧЫМ ЗА ЎВЕСЬ ПАСЛЯВАЕННЫ ПЕРЫЯД.

МІСТЭР КАРЭЛ ТАКСАМА КАЗАЎ, ШТО ДОЎГ КОЖНАГА ГРАМАДЗЯНІНА - ПАДТРЫМАЦЬ НОВЫ ПАЧЫН, КАБ ВЯРНУЦЬ БРЫТАНІІ БЫЛУЮ ВЕЛІЧ.

ВОСЬ І ЎСЕ ЛОНДАНСКІЕ НАВІНЫ НА ГЭТУЮ ГАДЗІНУ. НАГАДВАЕМ, ШТО ЗАЎТРА АПОШНІ ДЗЕНЬ ДЛЯ ЗАПАЎНЕННЯ БЛАНКАЎ ПЕРАПІСІ...

А ТАКСАМА ДЗЕНЬ СКАНЧЭННЯ ПРАЭКТА АСУШЭННЯ БАЛОТ У ДЭПТФОРДЗЕ. З ВАМІ БЫЎ "ВЕСЬНІК ЛЁСУ".

ДОБРАГА ЎСЕМ ВЕЧАРУ.

Jimmy
his New
VARNER BROS

# Глава 1
# Vыбух

ХАЛОДНЫ ЦЕНЬ ПАРЛАМЕНТА ПАДАЕ НА ВЭСТМІНТЭРСКІ МОСТ. ЯНА ДРЫЖЫЦЬ. КАЛІСЬЦІ ТУТ БЫЛА ЗГРУПАВАНА УЛАДА, ЯКАЯ ВЯРШЫЛА ЛЁСЫ МІЛЬЁНАЎ.

ЗАРАЗ ЯЕ СПРАВЫ І ЯЕ ПАСТАНОВЫ НЕ МАЮЦЬ НІЯКАГА ЗНАЧЭННЯ. ЯНЫ НЕ ЎПЛЫВАЮЦЬ НІ НА КАГО...

МІСТЭР?

...АКРАМЯ ЯЕ.

...Э-Э.. А ВЫ... НУ... НЕ ЖАДАЛІ Б... НУ ПЕРАСПАЦЬ СА МНОЙ?

У СЭНСЕ... НУ... ЗА ГРОШЫ?

У ЖЫЦЦІ НЕ ЧУЎ ТАКОЙ ДУРАЦКАЙ ПРАПАНОВЫ. ЗДАЕЦЦА, ТЫ НЯ ШМАТ ГЭТЫМ ЗАЙМАЕШСЯ, ТАК?

БОЖУХНА, Я, НАПЭЎНА, ДРЭННА ВЫГЛЯЖУ.

ГЭТА НАСАМРЭЧ МОЙ ПЕРШЫ ВЕЧАР. ВЫ - МОЙ ПЕРШЫ...

КЛІЕНТ?

КЛІЕНТ, ТАК.

Я... ПРАЦУЮ НА ФАБРЫЦЫ, АЛЕ...ГРОШЫ, РАЗУМЕЕЦЕ, ІХ НЕ ХАПАЕ... ПАСЛУХАЙЦЕ МІСТЭР, МНЕ ВЕЛЬМІ ПАТРЭБНЫ ГРОШЫ. УСЁ БУДЗЕ ДОБРА СА МНОЙ. У СЭНСЕ, МНЕ ЎЖО ЁСЦЬ ШАСНАЦЦАЦЬ. Я РАЗУМЕЮ, ШТО ГЭТА ЎСЁ.

НЕ, ТЫ НЕ РАЗУМЕЕШ, ШТО ГЭТА ЎСЁ.

КАЛІ Б ТЫ ВЕДАЛА, ТО НЕ ПАПАЛАСЯ Б НА МЕСЦЫ ЗЛАЧЫНСТВА

БОЖУХНА, ПАЛІЦЭЙСКІ.

ТАК. А ВОСЬ І МАЕ НАПАРНІКІ.

ТЫ ВЕДАЕШ ЗАКОН АБ ПРАСТЫТУЦЫІ. ГЭТА ЗЛАЧЫНСТВА КЛАСА "ЭЙЧ". ВЫХОДЗІЦЬ, МЫ МОЖАМ НА МЕСЦЫ ВЫРАШЫЦЬ, ШТО З ТАБОЙ РАБІЦЬ. У РАМКАХ НАШЫХ ПАЎНАМОЦТВ.

О, НЕ, ПАСЛУХАЙЦЕ, МІСТЭР, ПРАШУ ВАС, ГЭТА Ж У ПЕРШЫ РАЗ. Я ЗРАБЛЮ ЎСЁ, ШТО ПАЖАДАЕЦЕ.

ДА СІЛЫ ПРАЗ ЧЫСЦІНЮ ДА ЧЫСЦІНІ ПРАЗ ВЕРУ

НЕ ЗАБІВАЙЦЕ МЯНЕ!

ТЫ ЎСЁ НЕ ТАК ЗРАЗУМЕЛА, ДАРАЖЕНЬКАЯ. ТЫ ЗРОБІШ ТОЕ, ШТО МЫ ПАЖАДАЕМ, І ТОЛЬКІ ПОТЫМ МЫ ЗАБ'ЕМ ЦЯБЕ.

У РАМКАХ НАШЫХ ПАЎНАМОЦТВ.

КАЛІ ЛАСКА, НЕ ТРЭБА... БОЖУХНА...

"...БО АД НАРАДЖЭННЯ ГАНЕБНЫЯ ХІБЫ Ў ІМ КУБЛЯЦЦА..."

ШТО ЗА ХАЛЕРА...

"І ЗА ЗЛОДЗЕЕМ, ПАСМІХАЮЧЫСЯ, ПАЙШЛА ФАРТУНА-КУРВА..."
ГЭТА ХТО?
ХАЛЕРА ЯГО ВЕДАЕ. ПЭЎНА З ПСІХУШКІ ЗБЯЖАЎ, ДУРНЫ. ГЭЙ, ТЫ!
"АЛЕ ДАРЭМНА! ЁЙ, НАСУПЕРАК, ВЫХАВАНЕЦ ДРЭННАЙ СЛАВЫ..."
ТЫ ШТО РОБІШ?
У ЦЯБЕ ПРАБЛЕМЫ, ДРУЖА. ВЯЛІКІЯ ПРАБЛЕМЫ. ГЭТА ЖАНЧЫНА - ЗЛАЧЫНКА, А МЫ - АФІЦЭРЫ .
ЯНА ЗАТРЫМАНА ДЛЯ ДОПЫТУ. ТАМУ ПРЫТРЫМАЙ...
...РУКІ!
"САБЕ ШЛЯХ СЕКУЧЫ СТАЛЛЮ..."
"АДВАЖНЫ МАКБЭТ (ЁН ВАРТЫ ГЭТЫХ МЯНУШАК)"
"ДЫМЯЧЫ АДПЛАТАЙ КРЫВАВАЙ,"
"НАСУПРАЦЬ ЗДРАДНІКА ЁН СТАЎ."
ЁН.
"ЁН РУКУ ЯМУ НЕ ЦІСНУЎ..."
"...З ІМ НЕ РАЗВІТВАЎСЯ..."
СЛЁЗАТАЧЫВАЯ ГАЗА! ХХХХХА... БОЖУХНА, ГЭТА СЛЁЗАТАЧЫВАЯ ГАЗА!

ВОСЬ ЯГО РУКА. ШТО МНЕ РАБІЦЬ З ЯГО...

БОЖУХНА!

ШТО ГЭТА БЫЛО? ЁН УЗНІК БЫЦЦАМ З ВОЗДУХУ І... ШТО ЗА ХАЛЕРА?!

ФРЭНК МЁРТВЫ. ЯНЫ ЎСЕ МЁРТВЫЯ. БОЖА, ШТО НАМ ЗАРАЗ РАБІЦЬ?

ШУКАЦЬ. МЫ ПАВІННЫ ЯГО ЗНАЙСЦІ, АБО ГАЛАВА НАМ КІШКІ ВЫПУСЦІЦЬ...

КУРВА! ЗАРАЗ ЖА ТРЭБА ЯГО ЗНАЙСЦІ!

ВЫ... ВЫ МЯНЕ ВЫРАТАВАЛІ ЯК У КНІЖЦЫ? НЕ МАГУ ПАВЕРЫЦЬ.

ВЫ Х-ХТО?

ХТО Я? КАРОЛЬ ДЗЕВЯТНАЦЦАТАГА СТАГОДДЗЯ.

Я НЕЖЫЦЬ. ПАГАНЕЦ. ШАЛУДЗІВАЯ АЎЦА.

А-А...ЗРАЗУМЕЛА... АЛЕ ШТО ВЫ ТУТ РАБІЛІ? НЕ ДУМАЛА,ШТО ХТОСЬЦІ ХОДЗІЦЬ ПА НАЧАХ У ВЭСТМІНСТЭР, АКРАМЯ... НУ ВЫ РАЗУМЕЕЦЕ...

...ЖАНЧЫН.

АХ, АЛЕ СЁННЯ Ж АСАБЛІВЫ ВЕЧАР. ВЯЛІКАЕ СВЯТА. ПРЭМ'ЕРНЫ ВЫХАД. ХІБА ТЫ НЕ ВУЧЫЛА ВЕРШЫК НА ПАМЯЦЬ?

"ПАМЯТАЮ, ПАМЯТАЮ НЕ ЗДАРМА ПЯТЫ ДЗЕНЬ ЛІСТАПАДА І ЗМОВУ ПАРАХАВУЮ. НЯХАЙ ЛЯЦЯЦЬ СТАГОДДЗІ, АЛЕ СУМ І НУДОТА...»
«...ЗАЎСЁДЫ ЗАСТАЮЦЦА СА МНОЮ."
БОЖА, ПАРЛАМЕНТ! ЯНЫ... ЯНЫ... ГЭТА ВЫ ЗРАБІЛІ?
МАІХ РУК ПРАЦА.
АЛЕ ГЭТА Ж НЕЗАКОННА! ЯНЫ... ЯНЫ ЗАБ'ЮЦЬ ВАС! ЯНЫ...
ГЭТА САПРАЎ ДЫ ВЫ ЗРАБІЛІ?
ТАК, Я. ЗАРАЗ ЦІШЭЙ, БУДЗЕ І ПРАЦЯГ.
ГРУКАТ МАГУТНАГА ВЫБУХУ НЕ ПАСПЯВАЕ СЦІХНУЦЬ. А ДЗЕСЬЦІ ЎНІЗЕ ЎЖО ТРАШЧАЦЬ РЭЗКІЯ КАРОТКІЯ ХЛАПКІ...
І РАПТАМ УСЁ НЕБА АЗАРАЕЦЦА...
САЛЮТ! САПРАЎДНЫ САЛЮТ!
БОЖА, ЯК ПРЫГОЖА!
І ПА ЎСЯМУ ЛОНДАНУ РАСПАХВАЮЦЦА ВОКНЫ, І ТВАРЫ, ПЕРАКРУЧАНЫЯ СТРАХАМ І ЗДЗІЎЛЕННЕМ, ЗВЯРТАЮЦЦА ДА ЗНАКА, ЯКІЕ ПАЛАЕ Ў НАЧНЫМ НЕБЕ.
УВЕРЦЮРА СКОНЧАНА.
ПОЙДЗЕМ, ТРЭБА ПАДРЫХТАВАЦЦА ДА ПЕРШАЙ ДЗЕІ.
Я? А-АЛЕ...
НУ ДОБРА.
ДВАНАЦЦАЦЬ НУЛЬ СЕМ. ПАЧЫНАЕЦЦА ДОЖДЖ...



6 ЛІСТАПАДА 1997-ГА. ЗАРАЗ ШЕСЦЬ ТРЫЦЦАЦЬ РАНКУ...

СЛУХАЮ ВАШЫ СПРАВАЗДАЧЫ, ДЖЭНТЛЬМЭНЫ!

МІСТЭР ХЭЙЕР, ШТО СКАЖА ВОКА?

У НАС ТОЛЬКІ ТРЫ ХВІЛІНЫ, ЯКІЯ ПРЫГОДНЫ ДЛЯ ПРАГЛЯДУ ЗАПІСАЎ, ЛІДЭР. БОЛЬШАЯ ЧАСТКА НАШЫХ КАМЕР ПАШКОДЖАНА ВЫБУХАМ.

ЗЛЕВА - БУЙНЫ ПЛАН ПАДАЗРОНАГА. ШКАДА, АЛЕ МАСКА НЕ ДАЗВАЛЯЕ АПАЗНАЦЬ ЯГО ПА СЕТЧАТЦЫ.

ПАВЯЛІЧЦЕ, КАЛІ ЛАСКА, МІСТЭР ХЭЙЕР.

ТАК.

ДЗЯКУЮ, СПАДАР ХЭЙЕР. ДАЛЕЙ - МІСТЭР ЭТЭРЫДЖ, ШТО ВЕДАЕ ВУХА?

НУ, Э-Э... ПРЫ ПРАСЛУХОЎВАННІ ТЭЛЕФОННЫХ РАЗМОЎ БЫЛО ВЫЯЎЛЕНА ШМАТ... Э-Э... ЛЮДЗІ РАЗМАЎЛЯЛІ ПРА..Э-Э... ГЭТА ЗНАЧЫЦЬ, У МЕЖАХ ЛОНДАНУ.

УСЕ ПАДАЗРОНЫЯ ЦІ ЗНАКАВЫЯ ЗАПІСЫ БЫЛІ ПЕРАДАДЗЕНЫЯ ...У ПАЛЕЦ.

МІСТЭР ОЛМАНД ЗАРАЗ У МЯНЕ. Я ЯГО ПАПЯРЭДЖУ. ДАЛЕЙ - МІСТЭР ФІНЧ АД НОСУ.

МЫ ЗНАЙШЛІ ПРЫЛАДУ, ЯКАЯ НАПЭЎНА ВЫКАРЫСТОЎВАЛАСЯ ДЛЯ ПУСКУ ФЕЙВЕРКА, І НЕКАЛЬКІ ВЫКАРАСТАНЫХ ГІЛЬЗ. МАЖЛІВА, УЦЯЖАЛЁНЫЯ СЫГНАЛЬНЫЯ РАКЕТЫ.

ПРЫЛАДА НЕ ПРОСТАЯ. АЛЕ Я МАГУ ЎПЭЎНЕННА КАЗАЦЬ, ШТО ЯНО БЫЛО ЗМАЙСТРАВАНА РУКАМІ. ЯГО НЕ ВЫСАЧЫШ. ПАКУЛЬ ГЭТА ЎСЁ.

ДЗЯКУЙ, МІСТЭР ФІНЧ. ВЫ ТРОЕ БУДЗЕЦЕ ДАКЛАДВАЦЬ МНЕ АБ РАСЛЕДВАННІ. ЧАКАЙЦЕ НАКАЗАЎ. АНГЛІЯ ВЫШЭЙ ЗА УСЁ, ДЖЭНТЭЛЬМЭНЫ.

ШТО Ж, МЫ ВЫСЛУХАЛІ АСТАТНІЯ ОРГАНЫ ГАЛАВЫ. АДТРЫМЛІВАЕЦЦА ТАК, МІСТЭР ОЛМАНД: МІНУЛАЙ НОЧЧУ ТРЫ ПАЛЬЦЕЙСКІХ БЫЛІ ЗАБІТЫ АДНІМ ПСІХАМ.

І ЗДАЕЦЦА, ГЭТЫ Ж ПСІХ УСТАЛЯВАЎ БОМБУ НЕЗВЫЧАЙНАЙ МАГУТНАСЦІ Ў БУДЫНКУ ПАРЛАМЕНТА.

ЛІДЭР, Я...

ЗАМАЎЧЫЦЕ, МІСТЭР ОЛМАНД!

ВАША НЕКАМПЕТЭНТНАСЦЬ УЖО ПРЫВЯЛА ДА СТРАТЫ СТАРЭЙШАГА СЫМБАЛЯ ДЗЯРЖАЎНАЙ УЛАДЫ І ЦЯЖКАГА ПАРАЖЭННЯ ПА ПРАПАГАНДЫСТСКАЙ ЧАСТЦЫ! ВЫ НАВОГУЛЕ ВЕДАЕЦЕ, ШТО ЗДАРЫЛАСЯ МІНУЛАЙ НОЧЧУ?

НЕХТА ЗДЗЕЙСНІЎ НЕЙМАВЕРНАЕ. НЕХТА ПАШКОДЗІЎ НАМ!

Я ЖАДАЮ, КАБ ГЭТУЮ ПОСКУДЗЬ І ЯГО ПАПЛЕЧНІКАЎ ЗНАЙШЛІ НЕАДКЛАДНА, МІСТЭР АЛМОНД! МНЕ ПАТРЭБНА ЯГО ГАЛАВА!

...ЦІ, НЕ ДАЙ БОГ, МНЕ ПРЫЙДЗЕЦЦА ЗДАВАЛЬНЯЦЦА ВАШАЙ...

ПЕРАД ТЫМ, ЯК РАБІЦЬ АФІЦЫЯЛЬНУЮ ЗАЯВУ, АБМЯРКУЙЦЕ З МІСТЭРАМ ДАСКОМБАМ З ДЖОРДАН-ТАУЭР.

УСЁ, МІСТЭР ОЛМАНД, АНГЛІЯ ВЫШЭЙ ЗА ЎСЁ!

ВЫШЭЙ ЗА ЎСЁ, ЛІДЭР.

ДЖОРДАН-ТАУЭР. СЕМ ГАДЗІН.

ЯШЧЭ Б, ЛЬЮІС! МЫ СЁННЯ ЎСЕ ЎСТАЛІ ВЕЛЬМІ РАНА, ТАК? АЛЕ ДАВАЙ УСЁ ПРАГЛЯДЗІМ ПЕРАД ТЫМ, ЯК ПАКАВАЦЬ.

ВО ВСЕМ ДОВЕРЬСЯ СУДЬБЕ

ПРАБАЧ, Я НА ХВІЛІНКУ, ЛЬЮІС.

ДЭРЭК! ШТОСЬЦІ Ў ГЭТЫМ МЕСЯЦЫ ТЫ ДА НАС У РОТ РЭДКА ЗАГЛЯДАЕШ...

О-О! "У РОТ РЭДКА ЗАГЛЯДАЕШ". З ГЭТАГА МОЖНА ЗРАБІЦЬ ЖАРТ, ТАК?

БЫЛО, ДАСКОМБ, І НАВАТ НЕКАЛЬКІ РАЗОЎ. ШТО КАЖА ЛЁС НАКОНТ ВЫБУХУ ПАРЛАМЕНТА?

НУУ, ЛЁС ЖАДАЕ, КАБ ГЭТА БЫЎ ЗАПЛАНАВАНЫ ЗНОС, ЯКІ НАЎМЫСНА ПРАВЯЛІ НОЧЧУ, КАБ НЕ СТВАРАЦЬ ЗАТОРЫ.

ГЭТА ПОЙДЗЕ Ў ВАСЬМІГАДЗІННЫМ ВЫПУСКУ. Я ТОЛЬКІ ШТО АБМЯРКОЎВАЛ ГЭТА З ЛЬЮІСАМ.

З ЛЬЮІСАМ?

З ЛЬЮІСАМ ПРАТЭРАМ. ГЭТА Ж НАШ ГОЛАС, ГОЛАС "ВЕСЬНІКА ЛЁСУ."

ДОБРАГА РАНКУ, ЛОНДАН. ЗАРАЗ ДЗЕВЯЦЬ ГАДЗІН І ВЫ СЛУХАЕЦЕ РАДЫЁСТАНЦЫЮ "ВЕСЬНІК ЛЁСУ", ЯКАЯ ВЫХОДЗІЦЬ НА СЯРЭДНІХ ДЫЯПАЗОНАХ 275 І 285

## Глава 2
## Vеснік

ХМ-М-М, А ШТО ВЫ РАСПАВЯДЗЕЦЕ ПРА ФЕЕРВЕРКІ?

ЛЁС ЛІЧЫЦЬ, ШТО ПРА ІХ НЕ ТРЭБА КАЗАЦЬ. А КАЛІ ПОТЫМ УЗНІКНЕ ПЫТАННЕ, АДКАЖАМ, ШТО ГЭТА БЫЎ ПАБОЧНЫ ЭФЕКТ ВЫБУХУ.

ВО ЛЬЮІС ВЫКІДВАЕ... ЦІ ГЭТА НЕ ЦУД? КАЛІ Б У ЛЁСУ САПРАЎДЫ БЫЎ ГОЛАС, ТО ЁН БЫЎ БЫ ТАКІМ ЖА. ЭХ, НЕ ВЕДАЮЦЬ ЛЮДЗІ САПРАЎДНАГА ІМЯ САПРАЎДНАГА МАЙСТРА!

НЕ ДУРКУЙ, ДАСКАМБ! УВЕСЬ СЭНС У ТЫМ, КАБ ЛЮДЗІ СЛУХАЛІ ГЭТЫ ГОЛАС ЯК ГОЛАС ЛЁСУ. З ІМ ЛЁС ЗДАЕЦЦА БОЛЕЙ ЧАЛАВЕЧНЫМ. А ЛЮДЗІ АДЧУВАЮЦЬ СЯБЕ БОЛЬШ УПЭЎНЕНА.

ХММ...

ТЫ ВЕДАЕШ, ШТО ЁН ЗБІРАЕ ЛЯЛЕК? А З ВЫГЛЯДУ НЕ СКАЖАШ. ТАКІ ЗДАРАВЕННЫ МУЖЫК, А ЦАЦКІ ЗБІРАЕ. ЁН ВЕЛЬМІ ЧУТКІ, ДЫ ГЭТА І ПА ГОЛАСУ ЗРАЗУМЕЛА.

НУ Ў ВАС У ПРЭСЕ ШМАТ ТАКІХ "ЧУТКІХ", ТАК? НЕ РАЗУМЕЮ, ЯК ТОЛЬКІ ВАС ЛІДЭР ВЫТРЫМЛІВАЕ.

ДАРАГІ МОЙ ДЭРЭК... БО ЛІДЭР - САМЫ ЧУТКІ З НАС УСІХ.

ДУМАЮ, КАЛІ ТЫ РАСТЛУМАЧЫЎ ЯМУ, ЯК АДЗІН ПСІХ ПРЫМУДРЫЎСЯ ЗАБІЦЬ ТРАІХ ПАЛЬЦЭЙСКІХ І ЎЗАРВАЦЬ ПАРЛАМЕНТ, ЯГО ПАЧУЦЦІ БЫЛІ АСАБЛІВА ВАСТРЫ.

НУ ТЫ І ДУРАНЬ, ДАСКАМБ!

ШТОСЬЦІ ТЫ СЁННЯ ГАРКАВАТЫ, ОЛМАНД!!

ГОРКІ ОЛМАНД! ГОРКІ МІНДАЛЬ! ХА-ХА-ХА!

ДА ІДЗІ ТЫ ДА...

ДОБРА ЛЬЮІС, ДАВАЙ СПАЧАТКУ.

"ГОРКІ МІНДАЛЬ"! НІЧОГА САБЕ! ХА-ХА-ХА!

ГАЛЕРЭЯ ЦЕНЯЎ.

СЛУХАЙЦЕ, Я НЕ ЖАДАЮ ВЫГЛЯДАЦЬ НЯЎДЗЯЧНАЙ, НУ Ў СЭНСЕ, ВЫ Ж МЯНЕ ВЫРАТАВАЛІ, ТАК? АЛЕ Я НІЯК НЕ ЎЦЯМЛЮ, ВЫ ХТО, ЧАГО ЖАДАЕЦЕ, І НАОГУЛ...

У СЭНСЕ, НУ, Я ВЕДАЮ, ШТО Ў ВАС БЫЛІ ПРЫЧЫНЫ ЗАВЯЗАЦЬ МНЕ ВОЧЫ, КАЛІ МЫ СЮДЫ ШЛІ, АЛЕ АДКАЖЫЦЕ, ДЗЕ МЫ? МЫ ЯШЧЭ Ў ЛОНДАНЕ?

МЫ Ў ГАЛЕРЭІ ЦЕНЯЎ. Я ТУТ ЖЫВУ.

ПАДАБАЕЦЦА? Я САМ ЯЕ ЗБУДАВАЎ.

ГЭТА... З ГЛУЗДУ З'ЕХАЦЬ! КАРЦІНЫ ДЫ КНІГІ... Я НАВАТ НЕ ВЕДАЛА, ШТО ТАКОЕ ІСНУЕ...

АДКУЛЬ ВАМ ВЕДАЦЬ? ЯНЫ ВЫРВАЛІ З КАРАНЁМ УСЮ КУЛЬТУРУ... ВЫШПУРНУЛІ ЯЕ, ЯК БУКЕТ ЗАВЯЛЫХ РУЖ.

УСЕ КНІГІ, УСЮ МУЗЫКУ, УСЁ КІНО.

О, МУЗЫКА ТАК ЦУДОЎНА! ВЫ, МАЖЛІВА, ДУМАЕЦЕ, ШТО Я ДУРНЕНЬКАЯ... Я Ж НІКОЛІ НІЧОГА НЕ ЧУЛА, АКРАМЯ ВАЕННЫХ МАРШАЎ, ЯКІЯ ПЕРАДАЮЦЬ ПА РАДЫЁ.

АЛЕ ГЭТЫ ВАШ МУЗЫКАЛЬНЫ АНТАМАТ ГУЧЫЦЬ ТАК... НЕ ВЕДАЮ... ЁН ЯК ЖЫВЫ! ВОСЬ ЗАРАЗ - ШТО ГЭТА? ЖАНЧЫНА СПЯВАЕ БЫЦЦАМ НЕ ПА-АНГЛІЙСКУ.

ТАК І ЁСЦЬ. ТРЭБА КАЗАЦЬ "АЎТАМАТ", А НЕ "АНТАМАТ".

ПЕСНЯ НАЗЫВАЕЦЦА "ТАНЦУЮЧЫ НА ВУЛІЦЫ". А ПЕЛІ ЯЕ "МАРТА І ВАНДЭЛАС". МАЖЛІВА НАЗВА "ТАМЛА МАТАЎН". ГЭТА ШТОСЬЦІ ЗНАЧЫЦЬ ДЛЯ ЦЯБЕ?

НЕ. АДКУЛЬ? ПАСЛЯ ЎСЯГО...

ТАК, ГЭТЫЯ ПЛАСТЫ КУЛЬТУРЫ ВЫКАРАНЯЛІСЯ АСАБЛІВА СТАРАННА.

НІ "ТАМЛЫ", НІ "ТРАЯНА", НІ БІЛІ ХАЛІДЭЙ, НІ "ЧОРНАГА УХУРУ"...

ТОЛЬКІ ГОЛАС ЯГО ГАСПАДАРА. КОЖНУЮ ГАДЗІНУ, ПА ГАДЗІНЕ.

ШТО Ж, ПАГЛЯДЗІМ, ШТО З ГЭТЫМ МОЖНА ЗРАБІЦЬ...

ПРАБАЧЦЕ, АЛЕ ГЭТАЕ КУПЭ ЗАНЯТА.

ЗАНЯТА? ГЛУПСТВА! ТУТ ПУСТА, ТОЛЬКІ ВЫ ЎТРОХ! ЯШЧЭ ШМАТ...

Я Ж КАЗАЎ - ЗАНЯТА, КРЭТЫН!

А-АХ... БОЖА! ПРАБАЧЦЕ... Я НЕ ЗРАЗУМЕЎ.

ЗАНЯТА, ТАК, ВЯДОМА, ЗАНЯТА.

ВЫДАТНА ЗБАЦАЎ, ТЭД! НЕ ХАПАЛА ЯШЧЭ, КАБ У КУПЭ НАБІВАЛІСЯ Ў ЦЫВІЛЬНЫМ! ЦЫВІЛЬНЫЯ НЕ ПАВАЖАЮЦЬ ЦЯГНІКІ, ПАТРЭБНА БЫЦЬ ВАЕННЫМ, КАБ ІХ ШАНАВАЦЬ.

З ЛЯЛЬКАМІ ТОЕ Ж САМАЕ. ЦЫВІЛЬНЫ НЕ СТАНЕ ПЛАЦІЦЬ ПЯЦЬСОТ БАКСАЎ ЗА ЛЯЛЬКУ. НЕ ШАНУЮЦЬ, РАЗУМЕЦЕ? Я КАЗАЎ, ШТО ЗБІРАЎ ЛЯЛЕК, ДЖОРДЖЫ?

Э-Э... ТАК, МІСТЭР ПРАТЭРА. ЗДАЕЦЦА, ВЫ КАЗАЛІ РАЗ ЦІ ДВА. ВЕЛЬМІ ЦІКАВА.

ЦІКАВА! ШТО ЁСЦЬ, ТО ЁСЦЬ! І ЗАЎВАЖ, ТЫ ВАЕННЫ, А ЗАПЫТАЙСЯ Ў ЛЮБОГА ЦЫВІЛЬНАГА, ТАК ЁН АДКАЖА, ШТО ЛЯЛЬКІ - ДЛЯ СЛЮНЦЯЕЎ. ДУРНАТА - ЯНА ДУРНАТА І ЁСЦЬ.

Я САМ ЗАЎСЁДЫ БЫЎ БАБНІКАМ. ЭХ, ЯКІЯ БЫЛІ ЧАСЫ Ў АДЭНЕ! АДНОЙЧЫ МЫ З ПОРКІ ЭЛБІ ПАЗНАЁМІЛІСЯ З ДВУМА МЯСЦОВЫМІ ДЗЕЎКАМІ...



БОЖУХНА,
ШТО ГЭТА?


У ЧЫМ
СПРАВА?
ПЕРАД ТЫМ, ЯК МЫ ЗАЕХАЛІ Ў ТУНЕЛЬ, Я ПРЫКМЕЦІЎ ШТОСЬЦІ НА МАСТУ...

НАКШТАЛТ.... МАЖЛІВА, ШКУЦЦЕ ЗАЧАПІЛАСЯ ЦІ ШТОСЬЦІ ПАДОБНАЕ...

ХММ.
НУ ВОСЬ, МЫ ЎЖО ДА ТАГО ЧАСУ ВЕЛЬМІ МОЦНА ВЫПІЛІ, І ПОРКІ КАЖА АДНОЙ З ГЭТЫХ МЯСЦОВЫХ... ЗДАЕЦЦА, ЯНА БЫЛА СТАРЭЙШАЯ... ЁН КАЖА...
ПРАШУ ПРАБАЧЭННЯ, МІСТЭР ПРАТЭРА...
ТЭД... ТЫ НІЧОГА НЕ ЧУЎ? БЫЦЦАМ ШТОСЬЦІ СТУКНУЛА ПА ДАХУ ЦЯГНІКА?

ЭЙ! МЫ СПЫНЯЕМСЯ! НА ВАШУ ДУМКУ, ШТО ЗДАРЫЛАСЯ?
Я НЕ... ХАЛЕРА! ШТО З ЭЛЕКТРЫЧНАСЦЮ?

ВОСЬ Д'ЯБАЛ...

0730


УФФФ, ДЫ НЕ ТУРБУЙЦЕСЯ ВЫ ТАК, ХЛОПЦЫ. БРЫТАНСКАЯ ЧЫГУНКА – НАДЗЕЙНА. ВОСЬ ПАБАЧЫЦЕ, СВЯТЛО БУДЗЕ ПРАЗ ХВІЛІНУ.
ВОСЬ, Я КАЗАЎ, ШТО ПОРКІ БЫЎ АДНАРУКІ...
ХВІЛІНАЧКУ, МІСТЭР ПРАТЭРА! ТЭД, ВЫНЬ ПУШКУ НА ЎСЯЛЯКІ ВЫПАДАК...

ПРАШУ ПРАБАЧЭННЯ, МІСТЭР ПРАТЭРА, МЫ СЛУХАЕМ.



І ТУТ СТАРЭЙШАЯ КАЖА: "НАВАТ З МАЎПАЙ, АБЫ ХВОСТ БЫЎ ДАЎГІ!" ХА-ХА-ХА! СМЕШНА, ТАК?
ХММ, ЗДАЕЦЦА,ЯНЫ НЕ СПЯШАЮЦЦА, ТАК? МАЖЛІВА, ТРЭБА СХАДЗІЦЬ ДА МАШЫНІСТА СКАЗАЦЬ ПАРУ ЛАСКАВЫХ, ДЖОРДЖЫ.
ДЖОРДЖЫ?

ДЖОРДЖЫ?
НЕ КРЫЎДУЙ, ДЖОРДЖЫ, ГЭТА БЫЎ ПРОСТА ДУРНЫ ЖАРТ. ТЫ ПАДУМАЎ, ШТО Я НА ШТОСЬЦІ НАМЯКАЮ? ДЫ НЕ БЯРЫ Ў ГАЛАВУ...

ДЖОРДЖЫ?
БОЖУХНА, ТЭД, ГЭТА ДЖОРДЖЫ! ЁН...

ТЭД?
БОЖУХНА, ШТО З ВАМІ ДВУМА ЗДАРЫЛАСЯ? ХТО-НЕБУДЗЬ, НУ СКАЖЫЦЕ ШТО-НЕБУДЗЬ!

ПРЫВІТАННЕ!



6 ЛІСТАПАДА 1997 ГОДА.
...ТАК ШТО Я ХАЧУ ЯШЧЭ РАЗ ПАСЛУХАЦЬ ВАС. ЦЯГНІК УВАЙШОЎ У ТАНЕЛЬ. І ШТО ДАЛЕЙ?


Н-НУ, У СЭНСЕ, ЦЯЖКА КАЗАЦЬ. РАЗУМЕЕЦЕ, УСЁ ЗДАРЫЛАСЯ ХУТКА, ТАК?
НАОГУЛ, НІЧОГА ТАКОГА Я НЕ ЧУЎ. ПРОСТА БЫЦЦАМ БЫ ЗЛАВІЎ НЕЙКІ РУХ КУТКОМ ВОКА... ВОСЬ І ЎСЁ, ЗРАЗУМЕЛА?


ЦІ МОЖАЦЕ ВЫ АПІСАЦЬ НАМ ТАГО, ХТО НА ВАС НАПАЎ? РОСТ, ВОПРАТКА, У ГЭТЫМ СЭНСЕ.
НУ ЯК БЫ ЁН БЫЎ ПРОСТА ЧОРНЫ, РАЗУМЕЕЦЕ, АБ ЧЫМ Я? ТАКАЯ ЗДАРАВЕННАЯ ЧОРНАЯ ІСТОТА ІДЗЕ НА МЯНЕ З ВАКНА.


Ў ЯГО БЫЎ ТВАР, ТОЛЬКІ НЕ САПРАЎДНЫ, РАЗУМЕЕЦЕ? І ЁН ПАСМІХАЎСЯ.


ЗРАЗУМЕЛА. А ШТО БЫЛО ПОТЫМ? ЯНО СТУКНУЛА ВАС ЦІ НАПАЛА?
НЕ, У СЭНСЕ, ТАКАЯ СМЕШНАЯ РЭЧ, ЯНО ДАКРАНУЛАСЯ ДА МЯНЕ ВОСЬ ТУТ, НА ШЫІ.
І Я АДЧУЎ... БЫЦЦАМ ТОКАМ ТОРКНУЛА, І Я АДРУБІЎСЯ.


А ПРАЧУХАЎСЯ ТОЛЬКІ ПРАЗ ГАДЗІНУ, КАЛІ ПРЫЙШЛІ З СЛУЖБЫ БЯСПЕКІ. ВОСЬ ТАК.
ШТО Ж, Я ДУМАЮ, З ГЭТЫМ УСЁ. МІСТЭР БІШОП, АФІЦЭР ЗАПІША ВАШ АДРАС НА ТОЙ ВЫПАДАК, КАЛІ НАМ СПАТРЭБІЦЦА ЗВЯЗАЦЦА З ВАМІ. ДЗЯКУЮ ЗА СУПРАЦОЎНІЦТВА.


НУ, МІСТЭР ФІНЧ, ГЭТА ТОЙ САМЫ ВЫБЛЯДАК, ЯКІ ЎЗАРВАЎ ПАРЛАМЕНТ? ЦІ ЯК?
СПАДЗЯЮСЯ, ШТО ТАК, ДАМІНІК, БО ІНЧАЙ АТРЫМЛІВАЕЦЦА, ШТО ІХ ДВОЕ...
...А КАЛІ ІХ ДВОЕ, МНЕ БЕЗ ЧАРКІ ДУЖАГА НАПОЮ АБ ГЭТЫМ НАВАТ ДУМАЦЬ НЕ ХОЧАЦЦА.

МНЕ ТАКСАМА. МІСТЭР ФІНЧ, З ЧЫМ МЫ СУТЫКНУЛІСЯ? ШТО ГЭТА ЗА ПЕРСАНАЖ?

Я МАЮ НА ЎВАЗЕ, КАЛІ ЁН МОЖА ЎСКОЧЫЦЬ У ЦЯГНІК, ЯКІ ІДЗЕ ПОЎНАЮ ХАДОЮ - ГЭТА Ж НІКУДЫ НЕ ГОДНА! ДЛЯ ЗВЫЧАЙНЫХ ЛЮДЗЕЙ ТАКОЕ НЕМАГЧЫМА!

ВЫ ПРАВЫ, ДАМІНІК. І ВЫРУБІЦЬ ЗДАРАВЕННАГА МАШЫНІСТА АДНІМ ДОТЫКАМ ДА ШЫІ ТАКСАМА.ЗВЫЧАЙНЫЯ ЛЮДЗІ ТАКОГА ТАКСАМА НЕ МОГУЦЬ.

...БОЛЬШ ТАГО, АДВАЖУСЯ ЗАЎВАЖЫЦЬ, ШТО БОЛЬШАСЦІ ЗВЫЧАЙНЫХ ЛЮДЗЕЙ НАВАТ У ГАЛАВУ НЕ ПРЫЙДЗЕ ЎЗРЫВАЦЬ БУДЫНАК ПАРЛАМЕНТУ.

ТАМУ Ў ГЭТЫМ ВЫПАДКУ МЫ ПЭЎНА МАЕМ СПРАВУ З КІМСЬЦІ, ХТО НЕ АДНОСІЦЦА ДА ЗВЫЧАЙНЫХ ЛЮДЗЕЙ НІ ФІЗІЧНА, НІ ПСІХАЛАГІЧНА. І "ПСІХІЧНАЯ" ЧАСТКА БОЛЬШ ЗА ЎСЁ МЯНЕ НЕПАКОІЦЬ.

ТАМУ ШТО КАЛІ Я ХАЧУ РАСКАЛОЦЬ СПРАВУ... А Я ХАЧУ... МНЕ ПРЫЙДЗЕЦЦА ЗАБРАЦЦА ДА НЯГО Ў ГАЛАВУ, КАБ ЗРАЗУМЕЦЬ ЯГО ЛОГІКУ, І МЯНЕ ГЭТА ПАЛОХАЕ.

АГА, ВОСЬ МЫ І ПРЫЙШЛІ.

ТУТ НІЧОГА НЕ ЧАПАЛІ?

НЕ, СЭР. УСЁ ЗАСТАЛАСЯ ТАК, ЯК БЫЛО, КАЛІ ЦЯГНІК ВЫЙШАЎ З ТУНЭЛЮ.

## Глава 3
## Vайна

ТАК... МНЕ ПАТРЭБНА, КАБ ГЭТУЮ РАНУ НА ГРУДЗІ СФАТАГРАФАВАЛІ... ГЭТА ЗРОБЛЕНА НІ НАЖОМ, НІ КУЛЯЮ...

ЁСЦЬ У МЯНЕ ДРЭННАЕ АДЧУВАННЕ, ШТО ГЭТА ЗРОБЛЕНА ПАЛЬЦАМІ.

І ШТО ГЭТА ЗНАЧЫЦЬ, МІСТЭР ФІНЧ?

ХАЛЕРА МЯНЕ ПАДЗЯРЫ, КАЛІ Я ВЕДАЮ. ДАШЛІЦЕ СЮДЫ ФАТОГРАФА, І ТРЭБА ЎЗЯЦЬ САСКОБЫ.

МАЖЛІВА ЭКСПЕРТЫ НОСУ ШТОСЬЦІ ЗНАЙДУЦЬ, ХАЦЯ, ШЧЫРА КАЖУЧЫ, СУМНЯВАЮСЯ.

...У АСТАТНІМ ДЗЕЙНІЧАЕМ ЯК ЗВЫЧАЙНА. ШУКАЙЦЕ АДБІТКІ ПАЛЬЦАЎ, АПІШЫЦЕ РАЗМЯШЧЭННЕ ЦЕЛАЎ.

НЕ ЗАБУДЗЬЦЕСЯ АДПРАВІЦЬ КОПІЮ ЛЁСУ.


ОПА.
А ГЭТА ШТО ТАКОЕ?


РУЖА. СОРТ "ВІЯЛЕТ КАРСАН". ДЗІЎНА.. Я ДУМАЎ, ПАСЛЯ ВАЙНЫ ЯНЫ БЫЛІ ЗНІШЧАНЫ.
МНЕ ЗДАЕЦЦА ЦІ Ў НАШАГА СЯБРА Ў МАСЦЫ НЕАДСТУПНАЯ ЛЮБОЎ ДА ЛІТАРЫ "V"?


І НАВАТ КАЛІ Ў НАЙБЛІЖЭЙШЫ ЧАС НЕ ЗНОЙДЗЕЦЦА ТРУП, МОЖНА ЛІЧЫЦЬ, ШТО З ЛЬЮІСАМ ПРАТЭРА ЁН ТАКСАМА РАСПРАВІЎСЯ.
УЗАРВАЎ ГАЛОЎНЫ БУДЫНАК ПАРЛАМЕНТУ, СКРАЎ ГАЛОЎНАГА ДЫКТАРА...
ЦІКАВА, ШТО ЁН ЖАДАЕ ГЭТЫМ СКАЗАЦЬ?


НЕ ВЕДАЮ, СЭР. БОЖУХНА, ШТО ЁН ЗРАБІЎ З ГЭТЫМІ ДВУМА...
БЫВАЛА І ГОРШ. Я ЎЖО КАЗАЎ, ШТО ПСІХАЛАГІЧНЫ БОК НЕПАКОІЦЬ МЯНЕ КУДЫ БОЛЬШ... ЯГО ГАТОЎНАСЦЬ ЗАБІВАЦЬ.
ПАДУМАЦЬ ТОЛЬКІ! ЁН ЗАБІЎ ІХ ХУТКА, БЕЗ ЛІШНЯЙ ЖОРСТКАСЦІ І МІТУСНІ. У ЧЫМ БЫ ЯНЫ НІ БЫЛІ ВІНАВАТЫЯ, ЯНЫ Ж ЛЮДЗІ...


А ЁН ПРЫРЭЗАЎ ІХ ЯК СВІНЕЙ.




ГАЛЕРЭЯ ЦЕНЯЎ.










ANNIE
VICTOR McLAGLEN
WAIKIKI WEDDING
BING CROSBY BOB BURNS
MARTHA RAYE SHIRLEY ROSS
THE CAT
THE 4 MARX BROTHERS
"MONKEY BUSINESS"




ОЙ...


ПРАБАЧЦЕ, КАЛІ ЛАСКА, ВЫ МЯНЕ НАПУЖАЛІ, Я НЕ ЧУЛА, ЯК ВЫ ЎВАЙШЛІ...
ГЭТАГА НІХТО НЕ ЧУЎ. А ВЫ ПЛАКАЛІ...


ТАК, НЕ ЗВЯРТАЙЦЕ ЎВАГІ, Я ПРОСТА ПЛАКСА.
Я... ВЫ ПАЙШЛІ І НЕ СКАЗАЛІ, КУДЫ ІДЗЯЦЕ... Я ДУМАЛА... Я НЕ ДУМАЛА... У СЭНСЕ...


Я СПУЖАЛАСЯ, ШТО ВЫ НЕ ВЕРНЕЦЕСЯ.
ВЕДАЮ, ГЭТА ДУРНА, АЛЕ МАЁ ЖЫЦЦЁ РАПТАМ СТАЛА НЕЙКІМ ЧУЖЫМ. Я ЎЖО НЕ РАЗУМЕЮ, ШТО АДБЫВАЕЦЦА.

УЧОРА...
ЯНЫ ЗБІРАЛІСЯ... КАЗАЛІ, ШТО ЗАБ'ЮЦЬ МЯНЕ. А ВЫ МЯНЕ ВЫРАТАВАЛІ.

ВЫРАТАВАЛІ І ПРЫВЯЛІ Ў ГЭТА КРУТОЕ МЕСЦА. ТУТ ТАК ЦУДОЎНА, ТАК ЦІХА, І... І...

А Я НАВАТ І НЕ ВЕДАЮ, ЯК ВАС КЛІЧУЦЬ.

А ЯК МНЕ ВАС ЗВАЦЬ?

У МЯНЕ НЯМА ІМЯ. МОЖАЦЕ ЗВАЦЬ МЯНЕ V.

МЯНЕ ЗАВУЦЬ ІВІ. ІВІ ХАМАНД.

Я НІХТО. НІЧОГА ТАКОГА. НЕ ТОЕ, ШТО ВЫ.

УСЕ АСАБЛІВЫЯ. У КОЖНЫМ З НАС ЖЫВЕ ГЕРОЙ, ПАЛЮБОЎНІК, ДУРНЫ І ЗЛОДЗЕЙ.

І КОЖНАГА З НАС ЁСЦЬ, ШТО РАСПАВЕСЦІ. НАВАТ У ІВІ ХАМАНД. Я ВЕЛЬМІ ЖАДАЮ ПАЧУЦЬ ГІСТОРЫЮ ІВІ ХАМАНД.

ТАК БО МНЕ НЯМА ЧАГО РАСПАВЕСЦІ. МНЕ ШАСНАЦЦАЦЬ. Я НІЧОГА НЕ ЗРАБІЛА.

ШАСНАЦЦАЦЬ. ЗНАЧЫЦЬ, ВЫ НАРАДЗІЛІСЯ Ў 1981 ГОДЗЕ?

Т-ТАК. У ВЕРАСНІ. МЫ ЖЫЛІ НА ШУТЭРС-ХІЛ, У ПАЎДНЁВЫМ ЛОНДАНЕ. ТЫМ БЫЛО ДОБРА. У МЯНЕ ЁСЦЬ ЗДЫМКІ, ЖАДАЕЦЕ?

ГЭТА Я, МАМА І БАЦЬКА. БРАТОЎ І СЯСЦЁР У МЯНЕ НЕ БЫЛО... БАЦЬКА КАЗАЎ, ШТО ДРУГІХ ДЗЯЦЕЙ ЯМУ НЕ ПАЦЯГНУЦЬ.

ГЭТА БЫЛО Ў ЧАС СПАДА ВАСЬМІ-ДЗЯСЯТЫХ?

Т-ТАК... Я ПРА ГЭТА МАЛА ЧАГО ПАМЯТАЮ... БАЦЬКА КАЗАЎ, КАЛІ ПРЫЙШЛІ ЛЕЙБАРЫСТЫ, ЛЕПЕЙ НЕ СТАЛА...

НУ ЯНЫ ВЫЙГРАЛІ ВЫБАРЫ, БО ПААБЯЦАЛІ ПАЗБАВІЦЦА АД АМЕРЫКАНСКІХ РАКЕТ.

А ВАЙНА, ІВІ? ЦІ ПАМЯТАЕЦЕ ВЫ ВАЙНУ?

ВЯДОМА, ПАМЯТАЮ. МНЕ ТОЛЬКІ СЕМ БЫЛО. АЛЕ Я ПАМЯТАЮ, ЯК ПРА ЯЕ КАЗАЛІ ПА РАДЫЁ. БАЦЬКА ЎСЁ ЎГАВОРВАЎ МАЦІ НЕ ХВАЛЯВАЦЦА, А САМ ДА СМЕРЦІ ПЕРАПУЖАЎСЯ... ПАЧАЛОСЯ УСЁ З ПОЛЬШЧЫ І РАСЕІ, ТАК? І ПРЭЗІДЭНТ КЕНЭДЗІ КАЗАЎ, ШТО ЗБРОСІЦЬ БОМБЫ, КАЛІ ЯНЫ НЕ ЎЙДУЦЬ. ТАК БАЦЬКА КАЗАЎ.

ГЭТА БЫЛО ЖАХЛІВА. НІХТО НЕ ВЕДАЎ, ЦІ БУДУЦЬ БАМБІЦЬ БРЫТАНІЮ. ПАМЯТАЮ, ЯК МАЦІ КАЗАЛА: "АФРЫЦЫ БОЛЬШ НЯМА". І ЗАМАЎЧАЛА.

А Я ПАДУМАЛА, ШТО ЎСЕ СЛАНЫ І ЛЬВЫ ЗАГІНУЛІ. І ЗАПЛАКАЛА. МНЕ БЫЛО ТОЛЬКІ СЕМ.

АЛЕ БРЫТАНІЮ НЕ БАМБІЛІ. НАВАТ НЕ ВЕДАЮ, ЦІ МЕЛА ГЭТА ЗНАЧЭННЕ. БОМБЫ ЗРАБІЛІ З НАДВОР'ЕМ ШТОСЬЦІ ДРЭННАЕ.

АДНОЙЧЫ БАЦЬКА ПАКЛІКАЎ НАС У ДАЛЬНІ ПАКОЙ. КАЗАЎ, ШТО ХОЧА ШТОСЬЦІ ПАКАЗАЦЬ...

З ВАКОН БЫЎ БАЧНЫ ЎВЕСЬ ЛОНДАН. І АМАЛЬ УВЕСЬ ЁН БЫЎ ЗАЛІТЫ ВАДОЮ. ПРАРВАЛА ПЛАЦІНУ НА ТЭМЗЕ.

НЕБА БЫЛО ЧОРНАЕ І ЖОЎТАЕ. НІКОЛІ Я НЕ БАЧЫЛА ТАКОГА НЕБА. БАЦЬКА КАЗАЎ, З ЛОНДАНАМ УСЁ СКОНЧАНА. ЁН ЖАДАЎ АДВЕЗЦІ НАС З МАМАЙ ДАЛЕЙ ЗА ГОРАД.

АЛЕ МАМА НЕ ПАГАДЗІЛАСЯ. МАЖЛІВА, ЯНА БЫЛА ПРАВА. КАЖУЦЬ, ЗА ГОРДАМ БЫЛО ЯШЧЭ ГОРШ.

З-ЗА НЕПАГАДЗІ ЎВЕСЬ УРАДЖАЙ ЗАГІНУЎ. А З ЕЎРОПЫ НЕ ПРЫВОЗІЛІ ЕЖЫ, ТАМУ ШТО ЕЎРОПЫ БОЛЬШ НЕ БЫЛО, ЯК І АФРЫЦЫ.

НЕ ЛЮБЛЮ ДУМАЦЬ АБ НАСТУПНЫХ ЧАТЫРОХ ГАДАХ. ТАТА З СУСЕДЗЯМІ АРГАНІЗОЎВАЎ КАМІТЭТЫ САМААБАРОНЫ. НАВОШТА?

ЕЖЫ НЕ БЫЛО, КАНАЛІЗАЦЫЯ НЕ ПРАЦАВАЛА, УСЕ ХВАРЭЛІ. МАМА ПАМЁРЛА Ў 1991-М. БАЦЬКА НЕ ДАЗВОЛІЎ МНЕ НАВАТ НА ЯЕ ПАГЛЯДЗЕЦЬ НА РАЗВІТАННЕ.

УСЮДУ БЫЛІ БЯЗЛАДЗІЦЫ. ХАДЗІЛІ ЛЮДЗІ СА ЗБРОЯЙ, НІХТО НЕ РАЗУМЕЎ, ШТО АДБЫВАЕЦЦА, ЛЮДЗІ ЧАКАЛІ, ШТО ЎЛАДЫ ЗРОБЯЦЬ ШТО-НЕБУДЗЬ...

УЛАД НЕ БЫЛО. БЫЛІ ТОЛЬКІ ДРОБНЫЯ БАНДЫ, І КОЖНАЯ З ІХ ІРВАЛАСЯ СТАЦЬ ГАЛОЎНАЙ. У 1992 ГОДЗЕ АДНОЙ З ІХ ГЭТА ЎДАЛОСЯ.

ГЭТА БЫЛІ ФАШЫСТЫ, РАДЫКАЛЬНА ПРАВЫЯ, ЯКІХ ПАДТРЫМЛІВАЛІ ЗАСТАЎШЫЯСЯ ВЯЛІКІЯ КАРПАРАЦЫІ. ЯНЫ НАЗЫВАЛІ СЯБЕ "НАРДЫЧНАЕ ПОЛЫМЯ".

Я ПАМЯТАЮ, ЯК ЯНЫ МАРШЫРАВАЛІ ПА ЛОНДАНУ, НЕСЛІ СЦЯГІ СА СВАІМ СЫМБАЛЕМ. УСЕ НАВОКАЛ РАДАВАЛІСЯ. А МНЕ БЫЛО ЖУДАСНА.

ВЕЛЬМІ ХУТКА ЯНЫ ЎСЁ ПРЫБРАЛІ ДА РУК... А ПОТЫМ ЯНЫ ПАЧАЛІ ЗАБІРАЦЬ ЛЮДЗЕЙ. ЧОРНЫХ, ПАКІСТАНЦАЎ...

І БЕЛЫХ ТАКСАМА, РАДЫКАЛАЎ, А ЯШЧЭ МУЖЧЫН, ЯКІЯ КАХАЮЦЬ МУЖЧЫН. ГОМАСЭКСУАЛІСТАЎ. НЕ ВЕДАЮ, ШТО З ІМІ ЎСІМІ ЗРАБІЛІ.

БАЦЬКА Ў МАЛАДОСЦІ БЫЎ САЦЫЯЛІСТАМ. ЯНЫ ПРЫЙШЛІ ЗА ІМ РАНКАМ У ВЕРАСНІ 1993-ГА...

ГЭТА БЫЎ МОЙ ДЗЕНЬ НАРОДЗІНАЎ. МНЕ СПОЎНІЛАСЯ ДВАНАЦЦАЦЬ. БАЦЬКУ Я БОЛЕЙ НЕ БАЧЫЛА.

МЯНЕ ПРЫМУСІЛІ ПАЙСЦІ ПРАЦАВАЦЬ НА ФАБРЫКУ. ТАМ БЫЛО ШМАТ ДЗЯЦЕЙ. МЫ ПАКАВАЛІ ЗАПАЛКІ.

Lucifer

ЖЫЛІ Ў ІНТЭРНАЦЕ. ТАМ БЫЛО ХОЛАДНА І БРЫДКА. Я АМАЛЬ УВЕСЬ ЧАС ПЛАКАЛА СУМАВАЛА ПА БАЦЬКУ.

...ТАК ПРАЦЯГВАЛАСЯ ЧАТЫРЫ ГАДЫ... ЕЖЫ НЕ ХАПАЛА, ГРОШАЙ НЕ БЫЛО. НЕКАТОРЫЯ СТАРЭЙШЫЯ ДЗЯЎЧЫНЫ ЗАРАБЛЯЛІ, НУ, З МУЖЧЫНАМІ.

І Я ТАКСАМА ЗБІРАЛАСЯ. МІНУЛАЙ НОЧЧУ. АЛЕ ЯНЫ АПЫНУЛІСЯ ПАЛЬЦЭЙСКІМІ. ЯНЫ ХАЦЕЛІ...ХАЦЕЛІ...

ЯНЫ ЗБІРАЛІСЯ...


ЦІШЕЙ, ДАРАЖЭНЬКАЯ, ЦІШЭЙ. УСЕ ГЭТА ЎЖО Ў МІНУЛЫМ. ТЫ ЗАРАЗ У БЯСПЕЦЫ. МІНУЛАЕ НЕ МОЖА ПАШКОДЗІЦЬ, КАЛІ ТЫ САМА ЯМУ НЕ ДАЗВОЛІШ.
ЯНЫ ВЫГАДАВАЛІ ЦЯБЕ АХВЯРАЙ, ІВІ. ЯНЫ ЗРАБІЛІ З ЦЯБЕ ПУСТОЕ МЕСЦА. АЛЕ Ж ГЭТА НЕ САПРАЎДНАЯ ТЫ,НЕ ТА ТЫ, ЯКАЯ Ў ЦЯБЕ ЎНУТРЫ.
ДАРУЧЫСЯ МНЕ, ІВІ, І МЫ ГЭТА ЎСЁ ЗНІШЧЫМ. УВЕСЬ БОЛЬ, УСЮ ЖОРСТКАСЦЬ, УСЕ СТРАТЫ. МЫ ПАЧНЕМ УСЁ НАНАВА.
ВОСЬ БАЧЫШ?
УСЁ ПРАЙШЛО.
...ІВІ ХАМАНД ПЛАЧА. ПЛАЧА ЯК ДЗІЦЕ - БО ЯНА І ЕСЦЬ ДЗІЦЁ. ПЛАЧА, БО ЯЕ ВЕЧНЫ КАШМАР НАРЭШЦЕ СКОНЧЫЎСЯ.
А ДЛЯ ЛЬЮІСА ПРАТЭРА - НАСУПРАЦЬ...
А-А-А... ДЗЕ ГЭТА Я? ШТО ЗДАРЫЛАСЯ?
...І ЧАМУ Я Ў ГЭТАЙ ФОРМЕ?
КАШМАР ТОЛЬКІ ПАЧЫНАЕЦЦА!
БОЖА ЛІТАСЦІВЫ!
ЛАРКХІЛ.
ЛАГЕР ДЛЯ ПЕРАСЯЛЕНЦАЎ

СЁМАГА ЛІСТАПАДА 1997 ГОДА. ЛІДЭР І МІСТЭР ФІНЧ.

Я ЛІЧУ, ЛІДЭР, ЁН ПСІХАПАТ.

У САМЫМ ДАКЛАДНЫМ СЭНСЕ ГЭТАГА СЛОВУ.

ЗРАЗУМЕЛА. ЗНАЧЫЦЬ, НЕ ВАРТА ЧАКАЦЬ, ШТО ГЭТАК НАЗВАНЫ V БУДЗЕ ПАВОДЗІЦЬ СЯБЕ ЯК ЗВЫЧАЙНЫ ТЭРАРЫСТ.

НЕЛЬГА РАЗЛІЧВАЦЬ, ШТО ЁН РАНЕЙ ЦІ ПАЗНЕЙ ВЫДВІНЕ ЯКІЯ-НЕБУДЗЬ ПАТРАБАВАННІ ЦІ ПАСТАВІЦЬ ЎМОВЫ.

НАЎРАД ЦІ ЯМУ ПАТРЭБНЫ ЎМОВЫ, ЛІДЭР.

БАЮСЯ, ЯМУ ПАТРЭБНА КРОЎ.

РАЗ ТАК, ЁН АДТРЫМЛІВАЕ МЕНАВІТА ТОЕ, ШТО ЯМУ ПАТРЭБНА, МІСТЭР ФІНЧ? ЁН УЗАРВАЎ БУДЫНАК ПАРЛАМЕНТУ, ЗАБІЎ ПАЛЬЦЕЙСКІХ МІСТЭРА ОЛМАНДА...

А ЗАРАЗ ВЫКРАЎ НАШАГА ЛЕПШАГА ДЫКТАРА. КАЛІ ГОЛАС ПРАТЭРА ЗНІКНЕ З "ВЕСЬНІКУ ЛЁСУ", ДАВЕР ДА НАС МОЖА БЫЦЬ ПАДАРВАНЫ.

І НА ЎСЁ ГЭТА ЯМУ СПАТРЭБІЛАСЯ ТОЛЬКІ ДВОЕ СУТАК, МІСТЭР ФІНЧ.

ЦІ НЕ МОЖА МІСТЭР ДАСКОМБ ЗНАЙСЦІ ЗАМЕНУ ДЛЯ ГОЛАСА ПРАТЭРА, ЛІДЭР?

МОЖА. ПЭЎНА ПРАБЛЕМА Ў ТЫМ, ШТО МІСТЭР ДАСКОМБ ВЕЛЬМІ ДОБРА ВЫКОНВАЕ СВАЮ ПРАЦУ. ЛЮДЗІ ВЕРАЦЬ, ШТО ГОЛАС ЛЬЮІСА ПРАТЭРА - ГЭТА ГОЛАС МАШЫНЫ ЛЁСУ.

ВЕРА БРЫТАНЦАЎ У ЛЁС - КРАЕВУГОЛЬНЫ КАМЕНЬ НОВАГА ПАРАДКУ. ВАРТА ЗМЯНІЦЦА ГОЛАСУ - І... МОЖА ЗМЯНІЦЦА ЎСЁ.

ЗРАЗУМЕЛА. ЗНАЧЫЦЬ, НА ФРОНЦЕ ПРАПАГАНДЫ МЫ ЗАГНАНЫ Ў КУТ, ТАК?

ЗРЭШТЫ, АСАБІСТА ДЛЯ МЯНЕ, ШТО НОВЫ ПАРАДАК, ШТО СТАРЫ - УСЁ АДНО. МОЙ АБАВЯЗАК - ЗБЕРАГЧЫ БРЫТАНІЮ АД ХАОСУ. ЗРЭШТЫ, ЛІДЭР, ВЫ ВЕДАЕЦЕ.

ЗРАЗУМЕЛА, МІСТЭР ФІНЧ. ВЫ ЎЖО ВЫКАЗВАЛІСЯ Ў ГЭТЫМ ДУХУ, І ТОЕ, ШТО ВЫ НЯГЛЕДЗЯЧЫ НА ГЭТА, ЖЫВЫ, - ПАСВЕДЧАННЕ МАЁЙ ГЛЫБАЧАЙШАЙ ПАВАГІ ДА ВАС І ДА ВАШАЙ ПРАЦЫ.

А ЗАРАЗ ПАКІНЬЦЕ МЯНЕ. МНЕ ТРЭБА ШМАТ ЧАГО АБДУМАЦЬ. ЖАДАЮ ПАРАЗМАЎЛЯЦЬ З ЛЁСАМ.

АНГЛІЯ ВЫШЭЙ ЗА ЎСЁ, МІСТЭР ФІНЧ.

АНГЛІЯ ВЫШЭЙ ЗА ЎСЁ, ЛІДЭР!

ГАЛЕРЭЯ ЦЕНЯЎ. ІВІ ХАМАНД:

V...

МММ?

О НЕ, НІЧОГА. Я ПРОСТА СПРАБУЮ АБВЫКНУЦЬ ПРАМАЎЛЯЦЬ ГЭТА ЎСЛЫХ. V... ПАЦЕШНАЕ ІМЯ.

А Я НАВОГУЛЕ ПАЦЕШНАЯ АСОБА, ІВІ. ПАЗНАЕШ МЯНЕ ЛЕПЕЙ – АДЧУЕШ. ВЕЛЬМІ ПАЦЕШНАЯ АСОБА, ШЧЫРА КАЖУЧЫ.

ВЫ ДОБРЫ. ВЫ СЛУХАЛІ, ЯК Я РАСПАВЯДАЛА ПРА СЯБЕ. ПРА ВАЙНУ, ПРА МАМУ, ПРА БАЦЬКУ... ПРА ЎСЁ МАЁ ДУРНОЕ ЖЫЦЦЁ.

ШТО ВЫ ЗБІРАЕЦЕСЯ РАБІЦЬ, V? СВЕТ ТАКІ ВЯЛІКІ І ЖАХЛІВЫ, А СУПРАЦЬ ЯГО ТОЛЬКІ ВЫ І Я, НАПЭЎНА.

ТЫ ДЫ Я, ІВІ, ТЫ ДЫ Я СУПРАЦЬ УСЯГО СВЕТУ, ХА-ХА-ХА! ЯКАЯ МЕЛАДРАМА, ІВІ! ДЗІЎНА, ЯК ГЭТА ЖЫЦЦЮ ЗАЎСЁДЫ АТРЫМОЎВАЕЦЦА ЗВАРОЧВАЦЦА МЕЛАДРАМАЙ?

ГЭТА ІСТОТНА ДЛЯ ВАС, ТАК? УСЕ ГЭТЫЯ ТЭАТРАЛЬНЫЯ СПРАВЫ?

ГЭТА ДЛЯ МЯНЕ ЎСЁ, ІВІ. ІДЭАЛЬНАЕ ВЫЙСЦЕ, ВЯЛІКАЯ ІЛЮЗІЯ.

ГЭТА ГАЛОЎНАЕ.

...І Я ЗБІРАЮСЯ ЎЗАРВАЦЬ ПАРТЭР.

ЦІ БАЧЫШ ТЫ, ШТО ПУБЛІКА ЗАБЫЛАСЯ, НА ЯКІ ПРЫЙШЛА СПЕКТАКЛЬ. ГЛЕДАЧЫ ЗГУБІЛІ ПРАГРАМКІ, КАЛІ СВЕТ АСЛЕП АД ЯДЗЕРНАГА ПАДСВЯТЛЕННЯ.

А Я ІМ НАГАДАЮ. АБ МЕЛАДРАМЕ, АБ ТАННЫХ ДЭКАРАЦЫЯХ, АБ БУЛЬВАРНАМ ЧЫТАННІ. БАЧЫШ, ІВІ, УСЕСЬ СВЕТ ТЭАТР, А ЎСЁ АСТАТНЯЕ...

...ГЭТА ВАДЭВІЛЬ!

ГАЛЕРЭЯ ЦЕНЯЎ. ЛЬЮІС ПРАТЭРА:

ЭЙ! Я ПЫТАЮСЯ, ЁСЦЬ ТУТ ХТО?

# Глава 4
# Vадэвіль

НА ВАШУ ДУМКУ, ГЭТА СМЕШНА? УСЯ ГЭТА ДУРНАТА З ЛАГЕРАМ? ДА ЯШЧЭ ГЭТА ФОРМА?

ТАК ВОСЬ, ЖАРТЫ Ў ВАС ДУРАЦКІЯ, ЗРАЗУМЕЛА?

LARKHILL RESETTLEMENT CAMP

ВЕЛЬМІ ДЗІЎНА.

ВЫ НЕ ТАГО СХАПІЛІ, ХЛОПЦЫ. Я НЕ МАЮ НІЯКАГА ДАЧЫНЕННЯ ДА ГЭТЫХ ЛАГЕРАЎ, ХАЛЕРА ДЗЯРЫ! ВЫ НЕ ТАГО СХАПІЛІ!

БОЖУХНА, ЦІ ЁСЦЬ ТУТ ХТО?

ЛАГЕР, УІСМ ПАД-НЯЦЦА!

ФОРМА ПАЧЫШЧАНА, ВЫГЛАЖАНА, УСЁ ПА ЎСТАВУ, БАЧУ-БАЧУ. МАЛАЙЦОМ, ШЭФ ПРАТЭРА, МАЛАЙЦОМ.

Я...

ТРЭБА ЗА СПРАВЫ БРАЦЦА, ТАК? ГЭТЫМ КАНЦЭНТРАЦЫЙНЫМ... ПРАШУ ПРАБАЧЭННЯ. ГЭТАМУ ЛАГЕРУ ДЛЯ ПЕРАС-ЯЛЕНЦАЎ ПАТРЭБНЫ ШЭФ, ТАК?

СЛУХАЙЦЕ, Я НЕ ВЕДАЮ, ХТО ВЫ І ХТО ВАМ СХЛУСІЎ, ТОЛЬКІ ВЫ НЕ ТАГО СХАПІЛІ!

Я ДЫКТАР. Я НЕ МАЮ НІЯКАГА ДАЧЫНЕННЯ ДА КАНЦЭН... ДА ЛАГЕРАЎ ДЛЯ ПЕРАСЯЛЕНЦАЎ! Я...

Я...

ЛАРКХІЛ, 1993 ГОД.

Я БЫЎ ТАМ, ШЭФ ПРАТЭРА.

ВЫ БЫЛІ...

БО-ЖУХНА!

А ВЫ ХУТКА СКЕМІЛІ, АЛЕ НАМ ТРЭБА ІСЦІ НА ПЕРАКЛІЧКУ. ПАМЯТАЕЦЕ,

AMP

ВЫ РАБІЛІ ГЭТА КОЖНЫ ВЕЧАР? У СТАРЫЯ ДОБРЫЯ ЧАСЫ.

БО-ЖУХНА...

УЗГАДВАЕЦЕ? УСЕ ЗНЯВОЛЕНЫЯ ЗБІРАЛІСЯ НА ДВАРЭ Ў ЧАКАННІ ПЕРАКЛІЧЦЫ.

ВАМ ТРЭБА БЫЛО ПРАЙСЦІ З СВАЙГО КАБІНЕТА ЎЗДОЎЖ БАРАКАЎ, ЗВЯРНУЦЬ ЗА ВУГАЛ...


І ВОСЬ...






МАЕ ЛЯЛЬКІ!
ГЭТА Ж МАЯ КАЛЕКЦЫЯ ЛЯЛЕК, ЯК ЯНЫ... Я Ж УСЁ ЗАЧЫНІЎ, КАЛІ ЎЧОРА ІШОЎ НА ПРАЦУ...
ШТО ТЫ РОБІШ З МАІМІ ЛЯЛЬКАМІ?


БОЖУХНА, КАЛІ ТЫ ПАШКОДЗІЎ ХОЦЬ АДНУ – ІМ ЦАНЫ НЯМА! УСЕ ЛЕПШЫЯ КАЛЕКЦЫІ ЗАГІНУЛІ Ў ВАЙНУ. КАЛІ ТЫ ІХ ПАШКОДЗІЎ...
ЯК КРАНАЛЬНА, ШЭФ! ТАКІ КЛОПАТ АБ ФАРФОРЫ І ПЛАСТЫКУ...


І ТАКАЯ АБЫЯКАВАСЦЬ ДА КРЫВІ І ПЛОЦІ.
ПАМЯТАЕЦЕ, ШЭФ? ПАМЯТАЕЦЕ, ЯК У ГЭТЫМ АГІДНЫМ ЗАГОНЕ ТАЎПІЛІСЯ ЛЮДЗІ, ЯКІЯ ПАМІРАЛІ З ГОЛАДУ І БЫЛІ ХВОРЫЯ НА ДЫЗЕНТЭРЫЮ?


СЛУХАЙ, ТЫ Ж ВЕДАЕШ НЕ ГОРШ ЗА МЯНЕ.. ГЭТА БЫЛО НЕАБХОДНА. ЧОРНАДУПЫЯ, ГОМІКІ, ХІПІ... ЦІ ЯНЫ, ЦІ МЫ.
ЯНЫ ЦІ МЫ, ЗРАЗУМЕЛА?!


ЗРАЗУМЕЛА.
ІДЗЁМ, ШЭФ, ПЕРАКЛІЧКА ЯШЧЭ НЕ СКОНЧАНА. ТРЭБА ЗАЙСЦІ ДА АСАБЛІВЫХ ЗНЯВОЛЕНЫХ, ДА ТЫХ, ШТО Ў МЕДБЛОКУ.


СЮДЫ, КАЛІ ЛАСКА. ТУТ ВЫ ТРЫМАЛІ ТЫХ, КАГО ВЫКАРЫСТОЎВАЛІ ДЛЯ НАВУКОВЫХ ЭКСПЕРЫМЕНТАЎ – ТАК, ЗДАЕЦЦА, ВЫ ГЭТА НАЗЫВАЛІ?
КОЖНЫ ВЕЧАР ВЫ ПРАХОДЗІЛІ ГЭТЫМ КАЛІДОРАМ. КАМЕРА НУМАР АДЗІН, КАМЕРА НУМАР ДВА, КАМЕРА НУМАР ТРЫ...
НУМАР ЧАТЫРЫ...

НУМАР ПЯЦЬ.

НУМАР ПЯЦЬ? АЛЕ ТАМ ТРЫМАЛІ... ТРЫМАЛІ...

О, НЕ. ГЭТА БЫЎ ТЫ? ТЫ...

ТЫ ТОЙ ХЛОПЕЦ З НУМАРА ПЯЦЬ!

МЕНАВІТА.

ПАМЯТАЮ, ЯК ВЫ ВЫКЛІКАЛІ НАС ЧАС АД ЧАСУ. ПАМЯТАЮ ВАШЫ ЖАРТЫ. ДЛЯ МЕДБЛОКУ ВЫ ПРЫДУМАЛІ ЎЛАСНУЮ НАЗВУ – ФЕРМА ПАЦЕШНІКАЎ.

Я ВЫДАТНА ПАМЯТАЮ, ЯКІ Ў ВАС ДОБРЫ ГОЛАС. ПЭЎНА ТАМУ ВАС І ЗРАБІЛІ ГОЛАСАМ ЛЁСУ.

У ВАС ШМАТ ТАЛЕНТАЎ, ТАК, ШЭФ?

І ЯШЧЭ Ў ВАС БЫЛА АДНА ЗАБАЎКА.

ПЕЧЫ, НАЧАЛЬНІК, ВЫ ЎКЛЮЧАЛІ ПЕЧЫ.

О, НЕ... МАЕ ЛЯЛЬКІ! КАЛІ ЛАСКА, ТЫ Ж НЕ...

КАЛІ ЛАСКА, МАЛЮ, ПРАШУ ЦЯБЕ...

МА-МА... МА-МА... МА-МА...

ТОЛЬКІ НЕ ЛЯЛЬКІ!

IGNITE

МА-МА... МА-МА... МА-МА...


МА-МАА...

НЕЕЕЕЕЕЕЕЕ!

ПАЗНЕЙ, НОВЫ СКОТЛАНД-ЯРД.

МММ?
ПРЫВІТАННЕ, СЕРЖАНТ, АЛЕ МАЁ ДЗЯЖУРСТВА ЯШЧЭ НЕ СКОНЧЫЛАСЯ, ТАК? Я ТОЛЬКІ ШТО...



БОЖА, ХТО ГЭТА?

ХТО?...

АЛЁ, СЕРЖАНТ, ГЭТА ГОЛДАРД, Я ЛЯ ЎВАХОДА. НЕ МАГЛІ Б ВЫ ВЫЙСЦІ СЮДЫ, ТОЛЬКІ ПАХУТЧЭЙ?
ТАК, БАЮСЯ Ў МЯНЕ НАДЗВЫЧАЙНАЕ ЗДАРЭННЕ. ТУТ ШТОСЬЦІ НЕЗРАЗУМЕЛАЕ.

НЕ, НЕ МАГУ АДКАЗАЦЬ ДАКЛАДНА ШТО.

ДЖОРДАН-ТАЎЭР,
РОДЭР ДАСКОМБ.

ХТО?..
ЦІ Я НЕ ПРАСІЎ
НЕ ТУРБАВАЦЬ МЯНЕ,
ПАКУЛЬ...

А-А, ГЭТА
ТЫ.

СТАРЫ
ДОБРЫ
ОЛМАНД,
ЗАХОДЗЬ.

КАЛІ ТЫ ПРЫЙШОЎ
РАСПАВЕСЦІ, ЧАМУ ТЫ ТАК
І НЕ ЗМОГ ЗНАЙСЦІ ЛЬЮІСА,
МОЖАШ ПАБЕРАГЧЫ
ДЫХАННЕ. НІЧОГА ДРУГОГА
Я І НЕ ЧАКАЎ.

НЕ, ЯК РАЗ
НААДВАРОТ,
МЫ ЗНАЙШЛІ
ЯГО.

ВЫ...

НЕ МАГУ
ПАВЕРЫЦЬ.

ПРЫВОДЗЬЦЕ
ЯГО СЮДЫ,
РАБЯТЫ. ТАК,
МЫ ЯГО ЗНАЙШЛІ.
ПА МЕНШАЙ МЕРЫ...

ТОЕ, ШТО АД
ЯГО ЗАСТАЛОСЯ.

МА-МА.

Л-ЛЬЮІС?

ЗА АПОШНІЯ ТРЫ ГАДЗІНЫ
ЁН НІЧОГА БОЛЬШ
ВЫРАЗНАГА НЕ КАЗАЎ.
ПОСПЕХАЎ, ТАБЕ, СЯБРА,
З ЗАПІСАМ НОВАГА
ВЫПУСКУ НАВІН.

МА-МА...
МА-МА...
МА-МА...

ГОЛАС ЛЁСУ ЗАПІСВАЕЦЦА
НА СОРАК ВОСЕМ ГАДЗІН НАПЕРАД.
АПОШНІ ЗАПІС ПАЙШОЎ ЭФІР
У ДЗЕСЯЦЬ ГАДЗІН. ЗАРАЗ
УЖО АДЗІНАЦЦАЦЬ.

ДОБРЫ ВЕЧАР,
ЛОНДАН. ВЫ СЛУХАЕЦЕ
РАДЫЁ «ВЕСНІК ЛЁСУ», ЯКОЕ
ВЫХОДЗЕ НА СЯРЭДНІХ ДЫЯ-
ПАЗОНАХ... Э... 275 І 285
МЕТРАЎ...

СТАЛІЦА СЛУХАЕ. ШТОСЬЦІ НЕ ТАК.
ШТОСЬЦІ НЕ ТАК З ГОЛАСАМ ЛЁСУ.

ЗДАЕЦЦА, ДРОБЯЗЬ, АДНАК ЯНА
КІНУЛА НА БУДУЧЫНЮ ДОЎГІ
І ЗМРОЧНЫ ЦЕНЬ. БО ШТО Б
НІ ХАВАЛА БУДУЧЫНЯ, ЗРАЗУМЕЛА
АДНО...

БУДУЦЬ ЗМЕНЫ.